Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 10 Панядзелак, 19-га Красавіка 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне — [тэр]ыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнас[ьці.—Дэм]кратызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая [палітыка.—Д]алучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**



Ц... на 1 мес... 3 ... ўдвая дар...

... Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр.
„ сярод тэксту — 25 гр.
„ на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

## Дэмагогія і жыцьцё.

Усе памятаюць, як абурылася на нас нябошчыца „Бел. Ніва" за тое, што мы, сярод іншых лёзунгаў нашае газэты, выставілі „далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй." Апэлявала, нават, да Войкава!..

Цяпер на нас нападае беларускі эсэр Т. Грыб (Бюлет. бел. эсэраў № 3—4, Прага). П. Грыб крытыкуе наогул „арыентацыі" як „на Маскву", так і „на Варшаву". Нападае на нас зусім у прызваітай форме і прабуе *ідэолёгічна* даказаць нам нашую неправату. Прыпамінае, што „Грамадзкі Голас" у сваім часе выставіў сваёй праграмай „аўтаномію, як першы этап да незалежнасьці", а „Бел. Слова" выставіла толькі „тэрыторыяльную і культурна-нацыянальную аўтаномію".

Дык, перад усім, мы хацелі-б растлумачыць п. Грыбу, што лёзунгі, якія мы абвесьцілі ў „Бел. Слове" — гэта нашая *рэальная* праграма. Імкненьне-ж да Незалежнасьці — гэта Ідэал. Мы глыбока пераконаны, што як пры сучаснай агульна-эўрапэйскай кон'юнктуры наагул, так і палітычным становішчы Расеі і Польшчы, гэты Ідэал дапяць рэвалюцыйным шляхам, раптам—нельга. Мы лічым, што ўсе рэвалюцыйна-комуністычныя мэтады, якія праклямуе „Сел.-Раб. Грамада" ня толькі не прывядуць Беларускі народ да вызваленьня, а наадварот,—укінуць яго ў рукі найбольш агіднай і дэспотычнай з уладаў—улады міжнароднай комуністычнай партыі. Роўным чынам мы лічым несуразнасьцю, а з боку нацыянальнага этычна даволі „гібкім", даваць прысягу на вернасьць Дзяржавы (як гэта робяць усе паслы!), атрымліваць дзяржаўную пасольскую пэнсію, карыстацца нетыкальнасьцю і прывілеямі і адначасна... быць „адкрытым незалежнікам" (на паперы!) не прызнаючым гэтай-жа дзяржаўнасьці!..

Дзіўная камбінацыя: пасол Сойму Дзяржавы, не прызнаваючы гэтай-жа Дзяржавы!

Ісьціну, што кожны патрыёт імкнецца да незалежнасьці, ці-ж трэба даказываць? Даказалі гэта мы на дзеле, калі падымалі аружнае паўстаньне на Случчыне за Незалежную Беларусь. Даказалі гэта і тады, калі аб'едналыя ў нелегальнай (ад Польскай улады!) беларускай паўстанчапартызанскай арганізацыі „Нар. Хаўрус за Бацькаўшчыну" вялі аружную барацьбу *на бальшавіцкай тэрыторыі Усходняй Беларусі* з комуністамі, за што потым сядзелі ў польскіх турмах (працэс групы Паўлюкевіча ў 1922 годзе). То быў разгар флірту і польска-бальшавіцкай „дружбы"... Але—гэта Ідэал. І йсьці да яго можна рознымі шляхамі. Па воле лёсу мы — грамадзяне Польскай Дзяржавы. Мы маем дэмократычную конституцыю, якая юрыдычна забясьпечвае нам шырокія нацыянальна-палітычныя правы. Праўда, конституцыя гэтая ў жыцьцё праводзіцца надта слаба, але самы факт яе істнаваньня дае нам магчымасьць, апіраючыся на ёй, праўна і легальна змагацца за свае правы, чаго, напр., ніяк нельга рабіць у Савецкай Беларусі, дзе няма ніякага прававога ўкладу, а дзе пануе праізвол і нарушэньне ўсіх правоў чалавечых і Божых. Жыцьцё паказала, што толькі шляхам эвалюцыі, шляхам упартай, штодзённай, навукова-культурнай працы, можна дайсьці да Ідэалу. Трэба ўзгадаваць цэлае пакаленьне сьвядомай інтэлігэнцыі, трэба паглыбіць сьвядомасьць у шырокіх народных масах, трэба пашыраць нацыянальную солідарнасьць, арганізавацца і паступова здабываць палітычныя пляцоўкі. Толькі гэтым шляхам можна верна дапяць рэальных рэзультатаў.

Гэтым шляхам ідзем і мы. Праўда, мы ня кідаемся грымотнымі лёзунгамі, не надзеваем блескучых тогаў сёньняшней, ні на што ня гледзячы, праўдзівай незалежнасьці, а чырвоныя вопраткі фальшыва—незалежнай Савецкай Беларусі, мы адкідаем з агідай! Мы ідзем рэальнай дарогай. Мы працуем на час. Мы імкнемся, каб даць хаця бы што-небудзь рэальнае змучанаму Народу. І калі нам ўдасца гэтае зрабіць, мы будзем лічыць, што сваё заданьне выпаўнілі. Мы лічым, што калі ў хвілі найбольш цяжкай для беларускага народу, калі хваля шовінізму абрушылася на беларусаў; калі дзякуючы разумнай „рэвалюцыйнай" палітыцы нябочшыка „Бел. Пас. Клюбу" лічылі ўсіх бальшавікамі і амаль не бандытамі; калі ў гэты цяжкі час нам удаліся гэткія рэальныя рэчы, як утварэньне настаўніцкіх курсаў, дзе 90 беларусаў-настаўнікаў вучацца і будуць мець кваліфікацыю, якая на ўсё жыцьцё забясьпечывае ім чалавечае істнаваньне; калі нам удалося пасьля вялікіх змаганьняў адстаяць адну з нашых культурных пляцовак — Бел. Клецкую Гімназію, якой пагражала закрыцьце, бо міністэрства не зацьверджала 3 вучыцялёў і дырэктара; калі мы маем магчымасьць пасылаць у беларускую гушчу бел. друкаванае слова, закладаць бібліятэкі, пашыраць беларускі народны тэатр і беларускія сьпевы; калі мы можам выступаць у абароне нашых запужаных сялян — мы лічым, што мы прыносім рэальную карысьць народу, а адначасна кладзем фундамэнт пад будучыню Беларусі.

А калі нам ўдасца дабіцца, каб дзьверы вышэйшых школаў былі бы шырока адчынены для нашай моладзі, каб ей ня прыходзілася выежджаць з Бацькаўшчыны на чужыну за навукай; калі нам ўдасца паставіць на парадак дзенны справу самаўраду; калі па сканчэньні гэтых курсаў адчыняцца наступныя чарговыя, аб чым Рада і „Прасьвета" пачалі ўжо клопаты; калі мы даб'емся, каб пры надзеле зямлі яе атрымалі беларусы, а не асаднікі; калі мы ўсюду будзем мець сваю беларускую школу — тады гісторыя і беларускі народ апраўдае нас за наш кампрамісовы шлях.

П. Грыбу надта лёгка з Прагі гаварыць аб незалежнасьці (не ў ідэале, а ў практычным жыцьці). Лёгка крытыкаваць „арыентацыі", седзячы ў Чэхаў. Але калісь, калі й п. Грыб рэальна рабіў, дык на практыцы выходзіла трохі інакш. Калісь п. Грыб, як міністар ўнутраных справаў Ураду Ластоўскага падпісаў вядомую „ўмову" з літвінамі, па якой Вільня пераходзіла да Літвы, а Літва за гэтае міласьціва „падаравала" беларусам Горадзеншчыну (якую трэба было адбіць беларускімі рукамі ад палякоў!), як „тэрыторыю" для Незалежнай Бел. Рэспублікі. Ці п. Грыб ня лічыць Віленшчыны беларускай зямлёю? Ці гэтую ўмову ён не знаходзіць даволі далёка ідучым кампрамісам? А вось мы лічым, што пры безупынна растучым беларускім адраджэнскім руху, парлямэнтарнае змаганьне пры рэспубліканскім строю прымае ўсё большае значэньне. А ці ж не ясна, што чым народ больш спаяны і чым яго больш, тым змагацца лягчэй.

Вось дзеля чаго мы стаім за злучэньне абедзьвюх частак Беларусі. З другога боку бальшавікі нішчаць Беларусь і калечаць душу беларуса, а сваім комуністычным брудам паскудзяць і компромітуюць самы Ідэал, прыкрыўшы яго чырвонымі лахманамі. Вось дзеля чаго мы выставілі лёзунг далучэньня Усходняй Беларусі да Заходняй. *Не далучыць да Варшавы*, як хоча даказаць п. Грыб, а *злучыць абедзьве часткі Беларусі мы жадаем*, каб было лягчэй змагацца *за лепшую сучаснасьць* і каб быць бліжэй да Ідэалу.

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Пасьля сакавіковай сэсіі Лігі Народаў у Эўрапэйскай палітыцы настала часовае зацішша. Толькі Нямеччына пачала энэргічную падгатоўку да будучай сэсіі Лігі Народаў, на якой у другі раз будзе разглядацца справа аб уваходзе яе ў Лігу і аб пашырэньні ліку сяброў Рады Лігі Народаў. А рэшта дзяржаваў, як Францыя, Англія, Італія, Польшча і С.С.Р.Р. заняты ўрэгуляваньнем унутраных фінансава-эканамічных і палітычных пытаньняў.

Французам урэшце надакучыў фінансавы крызіс і бязупынныя зьмены міністраў фінансаў. І яны прынялі фінансавы праэкт міністра Пэрэ, які перш за ўсё ўводзіць г. наз. падушны падатак. Апрача таго ўтварыўся нацыянальны камітэт дзеля збору дабравольных ахвяраў на падтрыманьне курса франка. Ведама толькі пагроза фінансавай катастрофы часова спыніла палітычнае змаганьне партыяў, якое хутка пачнецца ізноў. Фінансавы праэкт прайшоў у палаце дэпутатаў і сэнаце толькі дзякуючы таму, што сацыялісты ўстрымаліся ад галасаваньня. Але амаль не прымусовая адстаўка міністра ўнутраных справаў Мальві прыхільніка сацыялістаў і крайніх радыкалаў, азначае пачатак новай палітычнай буры, якая кончыцца бязумоўным правалам кабінэта Брыяна і новым захватам улады праз Эрыё і Кайо.

У Англіі ідуць перагаворы між вуглякопамі і прадпрыемцамі пры пасрэдніцтве ўраду. Першага траўня мінае срок часовага дагавора між гэтымі трама старонамі, паводле якога ўрад субсыдзіраваў вугальную прамысловасьць. Далей урад ня можа рабіць гэтых расходаў, бо яны зьяўляюцца страшэнным цяжарам для насяленьня. Без узаемных уступак з боку прадпрыемцаў і з боку рабочых ня можа быць згоды. Рабочыя сёлета настроены больш згодна, чымсь летась. Урэгуляваньне вугальнага конфлікта зьяўляецца для Англіі пытаньнем жыцьця

